# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 48 28 лістапада 1991 г. Выдаецца з 1955 г.
(2242) Цана 8 кап.

## ЗЯМЛЯ ТРЫВОГІ НАШАЙ

Зірнуць на нашу Зямлю з вышыні, вызначыць яе самаадчуванне і паставіць правільны дыягназ — такая мэта унікальнай экспедыцыі, праведзенай у рамках рэспубліканскай праграмы «Дыстанцыйная дыягностыка» Рэспубліканскім навукова-тэхнічным цэнтрам дыстанцыйнай дыягностыкі прыроднага асяроддзя (РНТЦ «Экалогія») сумесна з вучонымі шэрагу інстытутаў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, БДУ імя У. І. Леніна і некаторых іншых арганізацый. Упершыню ў краіне комплекс экалагічных і радыяцыйных абследаванняў праведзены на самым высокім тэхнічным узроўні: з самалётаў-лабараторый ЯК-10, АН-30, верталётаў, дзе размясціліся дасканалыя фатаграфічныя, цеплавізійныя і тэлевізійныя сістэмы, спектрометры і многія іншыя высокаадчувальныя прыборы. Падключыліся да экспедыцыі і спадарожнікі «Алмаз», «Космас», «Рэсурс».

У зоне павышанай увагі вучоных аказаліся тры раёны: Лепельскі (на шчасце, толькі як эталон чысціні Еўрапейскай часткі краіны), Валожынскі і Салігорскі. Няма больш ганарлівых рапартаў аб тым, што вытворчае аб'яднанне «Беларускалій» амаль поўнасцю задавальняе патрэбы краіны ў калійных угнаеннях. Цяпер гэта зямля трывогі нашай. Гаспадарчая дзейнасць чалавека пакінула на ёй тэрыконы адпрацаваных парод, прасадкі глебы, ачагі апустыньвання. Знявечана, зранена зямля так, што само жыццё ў гэтых краях аказалася пад пагрозай. Наколькі? На гэта пытанне і трэба было адказаць у ходзе экспедыцыі.

З дапамогай звышчастотных прыбораў з многаметровай вышыні вучоныя змаглі «зазірнуць» пад зямлю амаль на дзесяць метраў. Вызначалі ўзроўні залягання грунтавых вод, ацэньвалі стан шламасховішчаў, выяўлялі ўчасткі працякання салявых раствораў. Цікавілі даследчыкаў ступень засоленасці сельгасугоддзяў у выніку ўнясення ўгнаенняў, стан салігорскага вадасховішча. З дапамогай аэраздымак вызначалася якасць лясных масіваў, участкі іх прыгнечання і засыхання. Прайшла самы строгі аналіз на нітраты, нітрыты, цяжкія металы і іншыя «кампаненты» і пітная вада гэтага краю.

НА ЗДЫМКУ: рукатворныя горы Салігорска.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

РОЗДУМ З НАГОДЫ СІМПОЗІУМА Ў АЎСТРЫІ

## ЦІ СТАНЕ КАРАЛЕВАЙ ПАПЯЛУШКА

**Нядаўна ў Аўстрыі па запрашэнню Зальцбургскага універсітэта пабывала група беларускіх вучоных, якія прынялі ўдзел у Міжнародным сімпозіуме па праблемах адраджэння беларускай культуры. Наша рэдакцыя звярнулася да ўдзельніка гэтага сімпозіума Уладзіміра САКАЛОЎСКАГА — спецыяліста па беларуска-заходнееўрапейскіх культурных сувязях і папрасіла яго падзяліцца сваімі думкамі і ўражаннямі аб гэтай навуковай нарадзе.**

Толькі што закончыў сваю работу Міжнародны сімпозіум «Моўная і культурная палітыка ў Савецкім Саюзе. Беларусь», наладжаны Інстытутам славістыкі Зальцбургскага універсітэта, у якім удзельнічалі вучоныя Беларусі, Аўстрыі, Швейцарыі і Польшчы. Ініцыятыва па яго арганізацыі і правядзенню належыць вядомаму аўстрыйскаму славісту Герману Бідэру, якога даўно зацікавілі праблемы беларускай культуры і які шмат сіл аддае іх даследаванню, асабліва ў галіне мовазнаўства.

Гэты сімпозіум з'яўляецца адной з першых спробаў, каб не толькі звярнуць увагу, пазнаёміць аўстрыйскіх вучоных з беларусістыкай (усе даклады будуць апублікаваны ў зборніку, які плануецца выдаць у наступным годзе пад назвай сімпозіума), але і зрабіць беларускую тэматыку прадметам іх даследавання. Задума гэтая ўзнікла ў Г. Бідэра падчас запрашэння яго ў Беларусь на Міжнародны сімпозіум «Беларуская мова, літаратура і культура ў кантэксце моваў, літаратураў і культураў народаў свету», які адбыўся ...аі 1990 года пры Беларус... дзяржаўным універсітэце.

Такім чынам, у кастрычніку 1991 года ўпершыню на аўстрыйскай зямлі шырока прагучала актуальная беларуская тэматыка. Адразу ж сталі відавс... мі і яе першыя вынікі: ...улярная аўстрыйская газета «Зальцбургскія паведамленні», што выдаецца на 44 старонках, у дзень адкрыцця сімпозіума, 24 кастрычніка, пісала, што ў Інстытуце славістыкі Зальцбургскага універсітэта значная навуковая падзея — сімпозіум пра культурную і моўную палітыку ў Савецкім Саюзе, дзе ўпершыню аб'ектам даследавання стала беларуская культура.

Каб атрымаць больш рэальнае ўяўленне пра сімпозіум, хацелася б звярнуць увагу на склад яго ўдзельнікаў, тых, хто выступаў з дакладамі, а таксама слухачоў (больш за 30 чалавек), хто актыўна прымаў удзел у абмеркаванні дакладаў і дыскусіі. А склад яго быў даволі прадстаўнічым — гэта паважаныя мясцовыя і замежныя вучоныя: прафесар Фрыдрых Готас — вядомы аўстрыйскі гісторык, дацэнт Інстытута англійскай мовы Вільфрыд Вільдэн, доктар Яржэмбскі з Кракаўскага універсітэта, магістр Ян Стышыньскі з Шчэцінскага, кандыдат педагагічных навук Таццяна Мяхедзькіна з Харкаўскага, магістр Стафанія Флёгль — лектар рускай мовы Зальцбургскага універсітэта і інш.

Адкрыў сімпозіум, як і трэба было чакаць, дырэктар Інстытута славістыкі прафесар Георг Маер. Звярнуўшы ўвагу на важнасць і актуаль-

(Заканчэнне на 6-й стар.).



Доўгатэрміновы дагавор аб сумеснай рабоце ў галіне тэхнічнага развіцця, эканамічных і культурных сувязей заключаны міжнароднымі аэрапортамі «Мінск-2» і «Вена». Пагадненне беларускіх і аўстрыйскіх авіятараў прадугледжвае паскарэнне пуску новых вытворчых магутнасцей аэрапорта «Мінск-2», абучэнне і стажыроўку яго супрацоўнікаў у Вене. Мяркуецца значна павысіць і ўзровень абслугоўвання авіяпасажыраў.

Аднак калегі з венскага аэрапорта прыляцелі ў Мінск не толькі з дзелавой, але і з дабрачыннай місіяй. Як і ў мінулы свой прыезд у Беларусь, яны прывезлі груз гуманітарнай дапамогі. Медыцынскае абсталяванне, лякарствы, цацкі былі перададзены 2-й дзіцячай гарадской клінічнай бальніцы Мінска, дзе лечацца не толькі маленькія мінчане, але і дзеці з пацярпеўшых ад радыяцыі раёнаў Магілёўшчыны і Гомельшчыны.

НА ЗДЫМКУ: начальнік міжнароднага аэрапорта «Мінск-2» Р. ЦЮЛЮПА (злева) і камерцыйны дырэктар міжнароднага аэрапорта «Вена» З. ГАНГЛ абменьваюцца дакументамі аб супрацоўніцтве.

Фота І. ЮДАША.

# НА СЦЭНЕ ЗЕМЛЯКІ ШЫРМЫ

Мнагалюдна было ў Палацы мастацтва імя Кісялёва ў Мінску сёлета 29 кастрычніка. На сцэне—вучні школы мастацтваў г. Пружаны Брэсцкай вобласці, якія па запрашэнню Саюза кампазітараў Беларусі прыехалі з канцэртам у сталіцу, у зале—вучні сельскіх школ, падшэфных Саюза кампазітараў Беларусі (Навадворская школа в. Каралёў Стан Мінскага раёна), а таксама мінскіх (№ 150 і інш.). Усіх сабрала тут падзея, якая адбудзецца 21 студзеня наступнага года: у гэты дзень споўніцца 100 год з дня нараджэння Рыгора Шырмы—славутага сына беларускага народа, чыё імя носіць пружанская школа. (Нагадаю, што Рыгор Раманавіч нарадзіўся на Пружаншчыне). Менавіта таму да юбілею тут рыхтуюцца загадзя, з нейкай асаблівай адказнасцю і стараннем.

Урачыстасць вечару надалі прывітальныя словы да яго ўдзельнікаў дырэктара школы Я. Малайчука і вядомага беларускага кампазітара В. Войціка. А потым быў канцэрт.

Яго чакалі з пачуццём асаблівага хвалявання. Прычына ў тым, што школа ў Пружанах—адзіная пакуль што школа мастацтваў на Беларусі і ў гэтым сэнсе першапраходзец у вельмі складанай і адказнай справе эстэтычнага выхавання дзяцей у правінцыі. Яна задае «тон» гэтай дзейнасці, закладае яе асновы, яна тут своеасаблівы «пункт адліку». Таму пытанне: «Як ідуць справы?» у дачыненні да пружанскай школы набывае асабліва глыбокі сэнс. Ведаю, што ў школы шмат цяжкасцей, але (мяркуючы па канцэрце) там ідзе планамерная, мэтанакіраваная і напружаная праца. І плён яе відавочны. Першае, што прыемна ўразіла на канцэрце, — тая шчырая захопленасць, з якой выступалі дзеці. Відаць, таму такімі дружнымі былі апладысменты пасля кожнага нумара канцэртнай праграмы, якія далі магчымасць адчуць юным артыстам з Пружаншчыны, што іх намаганні ў вучэбных класах школы не засталіся марнымі, што іх мастацтва здольна знаходзіць водгук у сэрцах слухачоў-равеснікаў. А на сцэне пабывала каля 150 чалавек: гэта і хор (кіраўнік М. Драбышэўская, канцэртмайстар Г. Клачко), і харэаграфічная група (кіраўнік Т. Дварадкіна), і два аркестры — народных інструментаў (кіраўнік І. Багамолава) і духавы (кіраўнік М. Ляўчук); завяршыла канцэрт маляўнічая праграма фальклорнага ансамбля «Вясёлыя музыкі» (кіраўнік І. Гвоздзік, балетмайстар В. Пілюцік, хормайстар Я. Малайчук). Ужо адзін гэты пералік сведчыць аб тым, як сур'ёзна працуе школа. А ў ёй жа ёсць яшчэ класы фартэпіяна, струнных, духавых інструментаў, класы выяўленчага мастацтва—словам, усімі асноўнымі відамі мастацтваў і многімі спецыяльнасцямі авалодваюць вучні пружанскай школы. Многаму ўжо навучыліся, яшчэ больш трэба спазнаць. Мяжы дасканаласці, як гаворыцца, няма. Вось тут і можна было б паставіць кропку, калі б не адна акалічнасць, якая не дае спакою пасля канцэрта.

Апошнім часам зноў востра і балюча паўстала пытанне ўздыму нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Трагічны лёс нацыі патрабуе вялікіх намаганняў усіх, хто імкнецца да яе адраджэння. І беларускім школам, а тым больш школе мастацтва тут належыць далёка не апошняе месца. Але бяда ў тым, што ў нашых школах нацыянальнае (і ў першую чаргу народнае мастацтва) пакуль што ў большасці разумеецца неапраўдана абстрактна. Дастаткова хору праспяваць беларускую песню, аб'явіць харэаграфічную кампазіцыю беларускай ці інсцэніраваць каляды, як ужо і можна абвяшчаць аб «засваенні нацыянальных традыцый», «веданні каранёў роднай спадчыны» і г. д. І ніяк пакуль мы не дойдзем да, здавалася б, такой відавочнай ісціны: няма беларускага народнага мастацтва «наогул», кожная яго праява мае канкрэтныя мясцовыя рысы. Вось гэтыя самыя рысы—і ў спевах, і ў танцах, і ў вопратцы, і ў традыцыйных абрадах—і павінны ў першую чаргу станавіцца вядомымі дзецям. Як паняцце Радзімы пачынаецца з таго куточка, дзе чалавек нарадзіўся, так і паняцце Мастацтва павінна ўваходзіць у кожную душу канкрэтнымі мастацкімі вобразамі гэтага куточка. Тады б, можа, удалося шматлікім калектывам мастацкай самадзейнасці Беларусі, у тым ліку і дзіцячым, не быць падобнымі адзін на аднаго, як дзве кроплі вады, удалося б знайсці сваё творчае аблічча, пазбегнуць надакучлівай нівеліраванасці.

Для Пружанскай школы мастацтваў гэта першаступенная задача асаблівай важнасці. Умовы для яе вырашэння тут ёсць: Пружаншчына — адна з самабытных этнаграфічных мясцін Беларусі, да таго ж тут збіраў песенны фальклор Рыгор Шырма, які пакінуў гэты скарб землякам у выглядзе шэрагу песенных з... ікаў: вывучайце, калі ласка, карыстай... я, стварайце эталон адносін да нацыянальнага мастацтва!

«Усё найлепшае, бессмяротнае ў мастацтве—ад народа,— гаварыў Р. Шырма. — Усё найлепшае, што створана вялікімі майстрамі, створана для народа. І ў гэтых каштоўных т... ыцыях—аснова мастацтва нашага грама... а». Па гэтым шляху, указаным Майстрам, нам і ісці.

Тамара ВАРФАЛАМЕЕВА.



Дні культуры Беласточчыны прайшлі ў Гродзенскай вобласці. У праграме гэтага вялікага свята былі разнастайныя выстаўкі, канцэрты, творчыя сустрэчы. Перад гродзенцамі выступілі сімфанічны аркестр Беластоцкай філармоніі, лялечны тэатр, маладзёжная тэатральная група, дзіцячы ансамбль песні і танца.

Жыхары прыгранічнай вобласці пазнаёміліся з творчасцю мастакоў і фотамайстроў, наведалі выстаўкі вясельных убораў і мэблі для дзяцей.

У рамках Дзён культуры ў Музеі гісторыі рэлігіі адкрыліся дзве фотавыстаўкі. Экспазіцыя з тысячы фатаграфій расказвала аб візіце папы рымскага Іаана Паўла II у Беласток.

А фатограф Віктар Волкаў і рэзчык па дрэву Войцэх Заленскі прадставілі на суд гледачоў сумесную выстаўку «Знакі часу», прысвечаную прыдарожным каплічкам у Польшчы.

НА ЗДЫМКУ: рэзчык Войцэх ЗАЛЕНСКІ і фатограф Віктар ВОЛКАЎ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## ЗГАДАЛІ ЗОРЫЧА

У Шклове гасцінна расчыніў свае дзверы Палац культуры. Свята гэтае супала з занальным аглядам самадзейнасці. Застаецца толькі радава... што мясцовыя ўлады нарэшце ўспомнілі... Зорыча! Так, гра... . Зорыча, які ў самыя змрочныя, як мы любілі казаць сем дзесяціголдзяў, часы дбаў аб развіцці культуры. Ягоныя прыгонныя спевакі, драматычныя акцёры, танцоры з поспехам выступалі ў спецыяльным тэатральным будынку, узведзеным яшчэ ў 1780 годзе. У канцы XVIII стагоддзя ў Шклове пры гэтым жа тэатры існавала і свая балетная школа.

І вось зноў у Шклове расчыніў дзверы Палац культуры. Магчыма, пасля г... з'явяцца ў Шклове і свае артысты балета. Праўда, ёсць а... «але». Справа ў тым, што для развіцця культуры С. Зорыч меў сродкі. Ці хопіць іх у гарадскіх і раённых улад Шклова?

*З НАГОДЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ВЫСТАЎКІ ГАБЕЛЕНАЎ*

# А ВУЧНІ ДЗЕ?

Габелен—дыван-карціна, вытканы ўручную. Спачатку — выраб парыжскай мануфактуры, заснаванай у 1662 годзе і вядомай у гісторыі як мануфактура Габеленаў (ад прозвішча майстроў-фарбавальшчыкаў, у будынку якіх размяшчалася ткацкая майстэрня). У XVII—XVIII стагоддзях мастацкія якасці габеленаў зрабілі іх настолькі папулярнымі, што габеленамі сталі называць высокамастацкія шпалеры іншых французскіх, а пазней — еўрапейскіх мануфактур, а ў XIX стагоддзі наогул шпалеры і шчыльныя абівачныя тканіны нават машыннага вырабу. Ткалі габелены з каляровых шарсцяных і шаўковых, часам сярэбраных і залатых ніцей на спецыяльных ручных станках метадам выбарачнага ткацтва (асобнымі часткамі, якія сшывалі танюсенькай шаўковай ніткай). Габелены ўзнаўлялі ўзор або карціну з рысунка (кардону), зробленага мастаком. Вялікая працаёмкасць вырабу і высокі кошт габеленаў рабілі іх здабыткам пануючых класаў, імі аздаблялі інтэр'еры каралеўскіх палацаў, асабнякі знаці.



На Беларусі бязворсавыя дываны-карціны ў XVII—XVIII стагоддзях выраблялі на ткацкіх мануфактурах князёў Радзівілаў у Нясвіжы, Міры, Карэлічах, Альбе, князя Агінскага ў Слоніме, на Гродзенскіх каралеўскіх мануфактурах і ў іншых месцах. Ткачы былі з мясцовых прыгонных. Ткалі габелены з раслінным арнаментам, геральдычнымі матывамі, сюжэтнымі кампазіцыямі і партрэтнымі выявамі.

У пачатку XIX стагоддзя вытворчасць дываноў-карцін на тэрыторыі Беларусі спынілася. Адраджэнне беларускага габелена прыпадае на савецкі перыяд, калі ў канцы 1960-х гадоў мастакі стварылі новы тып сучаснага габелена — манументальна-дэкаратыўны.

Апошняя рэспубліканская выстаўка габелена, што дэманструецца ў мінскім Палацы мастацтва, дае ўсе падставы паразважаць пра дасягненні нацыянальнай школы габелена і перспектывы яе развіцця.



Несумненны лідэр — А. Кішчанка. Ён паказвае тут дзве работы — «Раніца» і «Пра Беларусь». Апошняя прызначана для памяшкання Мінскай ратушы. (Нядаўна габелен гэтага мастака быў паднесены ў дар ААН у Нью-Йорку). Аўтар—майстар складаных кампазіцый, алегарычнай мовы. Сёння ў А. Кішчанкі шмат вучняў і паслядоўнікаў. Так, габелен «Барысаў»—цэлая панарама, дзе сімваламі пазначаны найбольш важныя і значныя падзеі гісторыі горада. Аўтары габелена Г. Гаркуноў і В. Грыгарышына, працуючы над творам, знаходзіліся пад несумненным уплывам свайго старэйшага калегі.

Некалькі твораў — ранейшых і выкананых апошнім часам — прадставіла Н. Пілюзіна. Серыя з пяці работ «Запрашаем на вяселле» выканана ў традыцыйнай для аўтара манеры. Габелены Н. Пілюзінай камерныя, часта інтымныя па свайму гучанню.

Эфектна выглядаюць габелены Т. і Ю. Рудэнкаў, якія скарыстоўваюць у сваіх работах накладкі на тканым палатне, спрабуючы гэтымі прыёмамі дабіцца найбольшай мастацкай выразнасці, што, дарэчы, не заўсёды выглядае арганічна.

Спрабуе сябе ў габелене вядомы жывапісец Зоя Літвінава. Трыпціх «Супрэматычная каса» — даволі ўдалая работа Л. Русавай.

В. Крывашэева, В. Маркавец-Бартлава, Н. Пілюзіна, В. Дзёмкіна — усе гэтыя імёны знаёмыя ўжо аматарам мастацтва. Іх творы пачалі з'яўляцца на выстаўках у сярэдзіне 70-х гадоў. Як ні шукай, але не знойдзеш, на жаль, ніводнага новага імя, ніводнага маладога аўтара. Што ж гэта азначае? Аказваецца, усяму ёсць тлумачэнні. У свой час у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце закрылі кафедру па габелену і перавялі яе ў Віцебск, дзе існуе адпаведная вытворчая база. Што атрымалася? Апынуўшыся на вытворчасці, маладыя сталі больш адчуваць сябе тэхнолагамі, чым мастакамі. Кафедра, дарэчы, дасюль не адноўлена. А тыя, хто прадставіў свае творы на рэспубліканскую выстаўку габелена, і ёсць, па сутнасці, яе адзіныя выпускнікі 70-х гадоў. Па ўзросту гэта людзі, якім па 40—45 гадоў. А на справе гэта азначае, што следам за нядоўгім перыядам адраджэння габелена можа наступіць чарговы заняпад.

Вось такія сумныя, на жаль, і трывожныя думкі выклікала выстаўка.

Таццяна АНТОНАВА.

НА ЗДЫМКАХ: А. КІШЧАНКА. «Пра Беларусь»; Г. ГАРКУНОЎ. «Ноч».

# ФІЛАТЭЛІСТЫЧНАЕ ЎШАНАВАННЕ

# ПАМЯЦІ ПЕСНЯРА

У маёй філатэлістычнай калекцыі, прысвечанай Беларусі, ёсць некалькі старонак з паштовымі матэрыяламі аб народным песняры Беларусі Я. Коласе. Самымі цікавымі ў гэтай падборцы з'яўляюцца два канверты ад лістоў, высланых Якубам Коласам у 1937 годзе ў Маскву на імя рускага паэта і перакладчыка твораў беларускай літаратуры С. Гарадзецкага. Зваротны адрас на іх напісаны аўтарам— «БССР, Мінск, Академія Навук» і подпіс: «Я. Колас».

У сучасных паштовых выпусках маюцца дзве маркі, тры канверты, адна паштовая картка і тры спецыяльныя штэмпелі. Яны былі выдадзены ў розныя гады да розных юбілеяў паэта.

У 1957 годзе Міністэрства сувязі СССР выпусціла малафарматную паштовую марку з партрэтам паэта ў абрамленні беларускага нацыянальнага арнаменту, каласоў жыта і адлюстравання кнігі. На марцы надпіс: «Якуб Колас— народный поэт Белорусской ССР. 75 лет со дня рождения».

Праз 5 год у гонар 80-годдзя з дня нараджэння песняроў Беларусі — Якуба Коласа і Янкі Купалы выпушчана была паштовая марка з партрэтамі абодвух літаратараў. Былі выпушчаны канверты. На адным з іх — партрэт Я. Коласа, даты жыцця і смерці, а таксама беларускі арнамент. Юбілей паэта быў адзначаны спецыяльным гашэннем карэспандэнцыі юбілейным штэмпелем з тэкстам на беларускай мове: «80 год з дня нараджэння Якуба Коласа. 3.11.62, Мінск, Паштамт» і малюнкам партрэта пісьменніка, каласоў жыта і кнігі.

Да 90-годдзя Я. Коласа выйшаў паштовы канверт з партрэтам песняра, выкананым вядомым мастаком А. Краўчанкам. Цікавымі выданнямі папоўнілася філатэлістычная калекцыя пра Я. Коласа ў 1982 годзе. У гонар 100-гадовага юбілею паэта ўпершыню ў практыцы савецкай пошты беларускаму паэту была прысвечана авіяпаштовая картка з арыгінальнай маркай, на якой адлюстраваны дом пісьменніка, што знаходзіцца на тэрыторыі Акадэміі навук Беларусі і дзе зараз размешчаны яго музей. У ніжняй частцы паштовага знака — лаўровыя галіны, адкрытая кніга, на старонках якой факсімільны роспіс Якуба Коласа. Выхад карткі ў паштовы абарот быў адзначаны спецыяльным гашэннем карэспандэнцыі штэмпелем з адлюстраваннем гусінага пяра і надпісам: «Почта СССР. 100 лет со дня рождения Якуба Коласа. Первый день. Москва. Почтамт».

У 1964 годзе ў серыі канвертаў, прысвечаных архітэктурным ансамблям Мінска, быў выдадзены канверт з адлюстраваннем плошчы Якуба Коласа і будынкаў паліграфічнага камбіната, якія носяць імя пісьменніка. На жаль, да гэтага часу не выдадзены канверт з адлюстраваннем помніка паэту на гэтай плошчы.

Імя Якуба Коласа носяць таксама вуліцы многіх гарадоў і пасёлкаў нашай рэспублікі, прадпрыемствы, гаспадаркі, бібліятэкі, установы, параходы і г. д. Многія з іх маюць так званыя франкіровачныя паштовыя машыны — штэмпель з найменаваннем аб'екта, адрас, на якіх напісана імя паэта. Ёсць такія штэмпелі і па-за межамі Беларусі. Вось толькі адзін прыклад. Вядома, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны пісьменнік некаторы час жыў у Ташкенце. Пасля разбуральнага землятрусу будаўнікі кожнай з рэспублік краіны ўзводзілі там цэлыя мікрараёны. Адна з вуліц, адноўленая беларускімі будаўнікамі, носіць імя Якуба Коласа. Факт гэты не вельмі вядомы ў Беларусі. Дарэчы, у выдадзеным БелСЭ ў 1987 годзе даведніку «Іх імёнамі названы...» гэты факт не ўпамянуты. Мне стала вядома пра гэта, дзякуючы франкіравальнаму штэмпелю, які прыслаў мне сябар-філатэліст з Ташкента.

**Леў КОЛАСАЎ.**







Куда




Кому

Индекс предприятия связи и адрес отправителя

Индекс предприятия связи места назначения

# СОНЕЧНАЯ ЛАЗА

**На выстаўцы-продажы вырабаў народных майстроў у Браславе нікога не пакінулі абыякавымі работы з лазы Івана Дварэцкага. Кашолкі самых розных памераў і форм, плеценыя вазы і талеркі, прыгожыя абажуры — гэтыя вырабы майстар упершыню прадставіў на суд браслаўчан і шматлікіх гасцей азёрнага краю. А пачалося ўсё вельмі даўно, у трыццатыя гады, калі дваццацігадовы Іван працаваў па найму ў гаспадара-немца ў Латвіі. Гаспадар, чалавек прадпрымальны, шукаў любыя шляхі зарабіць. Паказаў ён аднойчы Івану прыгожую талерку, сплеценую з лазы, і прапанаваў паспрабаваць зрабіць такія ж на продаж. Разам расплялі талерку, а сплесці зноў доўга не маглі. «Камерцыя» тады не атрымалася, але сама думка працаваць з лазой ужо не пакідала Івана. І ён час ад часу спрабаваў плясці, але прыахвоціўся да гэтага значна пазней: часы цяжкія надышлі — вайна. Толькі ў шасцідзесятыя гады ён сур'ёзна ўзяўся за пляценне. А жадаючых набыць прыгожую рэч — хоць адбаўляй. І стараўся Іван Іванавіч прыдумаць новую форму, прыгожы малюнак пляцення, каб была рэч лёгкая, каб радавала чалавека сваёй арыгінальнасцю, сонечнасцю. А потым было прынята яшчэ адно, такое няпростае для пажылога чалавека, рашэнне. Пражыўшы ўсё жыццё ў Латвіі, ён вяртаецца на радзіму — Браслаўшчыну, купляе дом і селіцца ў Ахрэмаўцах. І прысвячае ўвесь вольны час рабоце з лазой. Першы ж выхад са сваімі работамі да землякоў прынёс прызнанне. На Браслаўшчыне з'явіўся самабытны таленавіты майстар.**

**Я. КАЗЮЛЯ.**



**НА ЗДЫМКУ: Іван ДВАРЭЦКІ за работай.**

**Фота аўтара.**

*СПОРТ*

# ГРОШЫ ВЫШЭЙ ПЕРАМОГ?..

21 лістапада ў Маскве адбылося пасяджэнне Алімпійскага камітэта СССР. На ім вырашалася вельмі важнае пытанне: ці ўдасца аб'яднаць спартсменаў былых саюзных рэспублік пад адным флагам у час маючых адбыцца ў 1992 годзе зімніх і летніх Гульняў. Усе алімпійскія камітэты, размешчаныя на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, аднадушна выказалі жаданне застацца ў адзінай камандзе.

Гэту навіну ў спартыўным свеце ўспрынялі па-рознаму. Адны не хаваюць свайго задавальнення, што спартыўныя прынцыпы ў былым СССР узялі верх над палітычнымі. Другія выказваюць заклапочанасць: маўляў, ізноў збіраюцца на Алімпіяды супергіганцкія зборныя, з якімі цяжка будзе сапернічаць іншым краінам.

Як жа на самай справе складваецца абставіны напярэдадні Гульняў у камплектаванні каманд нашай краіны? Вядома, нам прыемна, што мір, згода і салідарнасць спартсменаў перамаглі. Але ці будуць атрыманы перамогі на снежных трасах Альбервіля і бегавых дарожках, у спартыўных залах Барселоны?

Тут ужо аптымізму ў нас за апошні час значна паменшала. Крызіс у эканоміцы і палітыцы не мог не адбіцца на развіцці спорту. Не ва ўсіх відах, але ў большасці мы раптам сталі здаваць свае пазіцыі.

Свае няўдачы мы прывыклі звязваць з адтокам мацнейшых спартсменаў ды і трэнераў у замежныя клубы. Так званыя «легіянеры» не заўжды могуць узмацніць зборныя СССР на многіх спаборніцтвах. Некаторыя спецыялісты ўжо цяпер прадказваюць няўдачу нашым хакеістам, бо савецкую каманду не змогуць узмацніць (калі не злітуюцца кіраўнікі канадска-амерыканскіх клубаў) прафесіяналы Касатонаў, Фёдараў, Бурэ. Гуляюць (і таксама залежаць ад «літасці» кіраўнікоў клуба) за мяжой нашы баскетбольныя і гандбольныя зоркі...

На жаль, у большасці выпадкаў і самі спартсмены вінаваты, якія выступаюць за мяжой. Не сакрэт, што нават некалькі гульняў у замежных клубах прыносяць большыя грошы, чым выступленне на першынстве свету, ды і на Алімпіядах за зборную СССР.

Грошы грашыма, але і гонар павінен свой быць. А яго пакуль у нашых спартсменаў і не хапае. Давайце ўявім такую сітуацыю: знакамітым хакеістам Лем'е ці Грэтцкаму прапанавалі за неймаверна вялікую суму выступіць у нейкім другім дывізіёне. Упэўнены, што вядомыя спартсмены не на жарт пакрыўдзіліся б. А нашы ж гатовы за долары ахвяраваць гонарам. Прыкра чытаць у прэсе, скажам, што нашы беларускія зборнікі-футбалісты, той жа С. Алейнікаў ці С. Гоцманаў, даюць згоду гуляць у другарадных замежных камандах.

Грошы ўносяць карэктывы і ў паездку нашых спартсменаў нават на чэмпіянат свету, і ў арганізацыю міжнародных турніраў. Успомнім, як быў пахаваны жаночы фехтавальны турнір на Кубак Беларусі. А ён жа міжнароднай арганізацыяй фехтавання аднесены да вышэйшай катэгорыі. Прычына адна: не хапіла грошай на арганізацыю гэтага турніру.

Нешта незразумелае адбываецца і на ўнутраных, усесаюзных першынствах. Спаборніцтвы праходзяць пры амаль пустых трыбунах. І зноў жа тут вінаваты грошы.

З вялікім абурэннем (прывядзём толькі адзін прыклад) успрынялі балельшчыкі апошнія туры футбольнага чэмпіянату краіны. Заведама слабыя каманды нечакана пачалі атрымліваць (прычым, на чужым полі!) адну перамогу за адной над будучым чэмпіёнам і прызёрамі. Сакрэт просты: аўтсайдэры, каб застацца ў вышэйшай лізе, адкупіліся і, мусіць, немалымі сумамі. На жаль, і мінскае «Дынама» падверглася крытыцы за такія неспартыўныя гульні.

Пацярпелі не толькі аматары спорту, але і самі спартсмены. Гульні ў «паддаўкі», толькі за грошы, не садзейнічаюць спартыўнаму росту іх, значна зніжаюць шанцы трапіць на тыя ж Алімпіяды.

Так што праблем з камплектаваннем зборных СССР на Гульні вельмі шмат. Тут, як кажуць, да пераможных фанфараў яшчэ далёка.

**Я. ІВАНОЎ.**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
Індэкс 63854. Заказ № 1817.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12